Гродна
№14 (520),
14 ліпеня 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ДУХОЎНЫ ЦЭНТР КУЛЬТУ МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ

ШТОГОД У ГУДАГАІ ЗБІРАЮЦЦА СОТНІ ШАНАВАЛЬНІКАЎ МАЦІ БОЖАЙ У ТАЯМНІЦЫ СВЯТОГА ШКАПЛЕРА. ВЕРНІКІ З ДАВЕРАМ У СЭРЦЫ І МАЛІТВАЙ НА ВУСНАХ УГЛЯДАЮЦЦА Ў СЛАЎНЫ ЛАСКАМІ АБРАЗ, ІМКНУЧЫСЯ ДА З'ЯДНАННЯ З БОГАМ ПРАЗ ЗАСТУПНІЦТВА МАРЫІ.

СЁЛЕТНІ ФЭСТ АСАБЛІВА ЎРАЧЫСТЫ, ТАМУ ШТО Ў ПАРАФІІ АДЗНАЧАЕЦЦА 255-ГОДДЗЕ КАНСЭКРАЦЫІ СВЯТЫНІ, 10-АЯ ГАДАВІНА АСВЯЧЭННЯ ГУДАГАЙСКАЙ КАЛЬВАРЫІ, А ТАКСАМА 5-АЯ ГАДАВІНА ЎСТАНАЎЛЕННЯ ТУТ САНКТУАРЫЯ.

● працяг на с. 4

"Марыя – Маці, якая заўсёды вядзе да Езуса". Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 10, 25–37**

Адзін кніжнік устаў і, выпрабоўваючы Езуса, сказаў: "Настаўнік, што мне рабіць, каб атрымаць у спадчыну жыццё вечнае?". Езус адказаў яму: "У Законе што напісана? Як чытаеш?". Той сказаў у адказ: "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсёю моцаю тваёю, і ўсім розумам тваім; і бліжняга свайго, як самога сябе". Езус сказаў яму: "Слушна ты адказаў. Так рабі і будзеш жыць". Але той, жадаючы апраўдацца, сказаў Езусу: "А хто мой бліжні?". Адказваючы на гэта, Езус сказаў: "Адзін чалавек ішоў з Ерусаліма ў Ерыхон і трапіў у рукі разбойнікаў, якія знялі з яго адзенне, пабілі яго і пайшлі, пакінуўшы ледзь жывога. Выпадкова нейкі святар ішоў тою дарогаю і, убачыўшы яго, прайшоў міма. Таксама і левіт, будучы на тым месцы, падышоў, паглядзеў і прайшоў міма. А нейкі самаранін, праязджаючы, знайшоў яго і, убачыўшы, злітаваўся. Падышоў, перавязаў яму раны, паліваючы алеем і вінном. Пасадзіў яго на свайго асла, прывёз у заезд і паклапаціўся аб ім. А на другі дзень, ад'язджаючы, дастаў два дынары, даў карчмару і сказаў яму: «Паклапаціся аб ім. А калі патраціш больш, я аддам табе, калі вярнуся». Хто з гэтых трох, на тваю думку, быў бліжнім таму, хто трапіў у рукі разбойнікаў?". Ён сказаў: "Той, хто паступіў з ім міласэрна". Тады Езус сказаў яму: "Ідзі і ты рабі таксама".

## МІЛАСЭРНАСЦЬ АКАЗАЦЬ УЧЫНКАМ

Адно са слоў, якія часцей за ўсё сёння злоўжываюцца і перайначваюцца, – гэта "любоў". Людзі часта называюць так тое, што, насамрэч, абсалютна яе абвяргае: эгаізм, нячыстасць... Любоў жа настолькі з'яўляецца любоўю, наколькі яна частка любові Бога.

Пра любоў лёгка гаварыць, прыгожа спяваць, але цяжка ёю жыць кожны дзень. Аб ёй сведчыць пастава неабыякавасці да бліжняга. Менавіта гэтаму вучыць прыпавесць пра міласэрнага самараніна: нельга ігнараваць патрабуючага. Нас павінна глыбока ўзрушваць яго няшчасце, каб знайшлі час на ўдзяленне дапамогі.

Хрыстос становіцца сёння нашым экзаменатарам. Указваючы на паставу святара, левіта і самараніна, Ён пытаецца: "Хто з гэтых трох, на тваю думку, быў бліжнім таму, хто трапіў у рукі разбойнікаў?". Правільны адказ – бліжнім з'яўляецца толькі той, хто аказаў міласэрнасць. Але яе трэба ўдзяляць найперш учынкам. Адсюль наказ Езуса для кожнага: "Ідзі і ты рабі таксама".

**Ці здольны я заўважыць чалавека ў патрэбе?**

**Як дапамагаю іншым людзям?**

**XVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 10, 38–42**

Прыйшоў Езус у адну вёску. І жанчына, якую звалі Марта, прыняла Яго. У яе была сястра па імені Марыя, якая села каля ног Езуса і слухала Яговыя словы. Марта ж была занятая многімі паслугамі. Яна, падышоўшы, сказала: "Пане, ці Табе ўсё адно, што сястра мая пакінула мяне адну прыслугоўваць? Таму скажы ёй, каб дапамагла мне". Пан жа сказаў ёй у адказ: "Марта, Марта, ты турбуешся і клапоцішся пра многае, а патрэбна толькі адно. Марыя ж выбрала найлепшую частку, якая не адымецца ў яе".

## АДКЛАСЦІ МЕНШ ВАЖНЫЯ СПРАВЫ

Евангелле ўказвае нам на Езуса, якога прымаюць у розных дамах. Ён наведвае Пятра, Закхея, багатага фарысея. Часта прабывае ў сям'і Лазара, Марыі і Марты. Дыяметральна па-рознаму паводзяць сябе ўзгаданыя сёстры, прымаючы ў доме важнага Госця. Марта засяроджваецца на ўпарадкаванні жылля і гатаванні ежы. Марыя ж спыняе працу, каб сканцэнтраваць увагу на навуцы Езуса. Незадаволенасць Марты паставай Марыі вырашае Хрыстос, падкрэсліваючы неабходнасць адчувальнасці да Яго збаўчага паслання.

Езус прагне растлумачыць, што ў жыцці кожнага з нас ёсць справы больш важныя і менш важныя. Мы павінны выбіраць, што ў дадзеную хвіліну мае большае значэнне. Збаўца адзначае, што слуханне Божага слова важнейшае, чым клопат пра багата застаўлены стол і прыбраны дом. Прыгадвае таксама, што добрая малітва вядзе да працы, а сумленная праца можа стаць малітвай.

Езус штодзённа прыходзіць у дом жыцця чалавека са сваім Словам. Хоча прамаўляць да нас асабліва падчас чытання Святога Пісання на св. Імшы. Чакае, каб мы, падобна Марыі, адклалі іншыя справы і засяродзіліся на Госці, які мае сказаць штосьці важнае.

**Ці здольны я пакінуць іншыя справы, каб паразмаўляць з Богам?**

**Як перажываю сустрэчу з Панам у Эўхарыстыі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Каралева шкаплера

*У сярэдзіне ліпеня прыпадае ўспамін Маці Божай з гары Кармэль. Для многіх вернікаў гэты дзень атаясамліваецца са шкаплерам, што азначае перайманне Хрыста і з'яўляецца знакам кансэкрацыі па прыкладзе Марыі, якая была першай і самай дасканалай вучаніцай Божага Сына.*

У рэлігійным сэнсе шкаплер азначае вопратку, асвечаны ўбор. Ужо ў Старым Запавеце адзенне было сімвалам Божых дабрадзействаў, апекі Провіду і моцы, удзеленай чалавеку Усемагутным. Выключная вопратка Юзафа з'явілася выразам любові айца да сына (параўн. Быц 37, 3). Плашч, падараваны Давіду Ёнатанам, сімвалізаваў прыязнасць (параўн. 1 Сам 18, 4). У Ісаі чытаем: "Узрадуюся ў Пану, узвесяліцца душа мая ў Богу маім, бо Ён апрануў мяне ў шаты збаўлення, плашчом справядлівасці ахінуў мяне" (Іс 61, 10). А калі Ілля быў узяты ў Неба, адразу ж скінуў свой плашч Елісею, і такім чынам дух настаўніка перайшоў на вучня (параўн. 2 Вал 2, 14). У Новым Запавеце нават махры плашча Езуса, кранутыя з верай, перадаюць аздараўленчую моц (параўн. Мк 5, 27–29). Св. Павел шматразова прадстаўляе жыццё ў Хрысце як апрананне ў Яго (параўн. Рым 13, 14; Гал 3, 27), апрананне ў вучня Езуса.

Значэнне шкаплера – знака знешняй прыналежнасці да брацтва – сапраўды вялікае. Адна яго частка спускаецца на грудзі, пакрывае сэрца. Гэта азначае, што яно павінна пульсаваць у рытме Беззаганнага Сэрца Марыі. Павінна біцца для Хрыста і для бліжніх, а таксама заставацца адкрытым на натхненне Святога Духа, падобна, як было на яго адкрыта сэрца Маці Божай. Другая частка шкаплера спадае на плечы і пакрывае іх. Гэта сімвал таго, што ўсе намаганні, высілак, цярпенні трэба спалучаць з намаганнямі і цярпеннямі Марыі, якая як Сааднаўпіцельніца верна ішла за Сынам ад Бэтлеемскага грота аж на вяршыню Галгофы.

"Хто прымае шкаплер, – пісаў св. Ян Павел ІІ, – уводзіцца на зямлі Кармэля, каб каштаваць яе плады, адчуваць салодкую, мацярынскую прысутнасць Марыі ў штодзённай працы ды ўнутрана апранацца ў Езуса Хрыста". Дзейснасць знака шкаплера абумоўлена паставай канкрэтнага чалавека, залежыць ад яго жывой веры, ад стараннасці ў працы над сабой і ад практыкавання любові да бліжніх.

Пастаянна знаходзячыся на шыі верніка, шкаплер прыгадвае аб хрысціянскай і марыйнай тоеснасці. Сведчыць аб тым, чые мы дзеці і што маем Маці ў Небе. Ажыўляе ў памяці словы Беззаганнай, прамоўленыя некалі ў Кане Галілейскай: "Тое, што Сын мой скажа вам, зрабіце" (параўн. Ян 2, 5). Езус жа ў сваю чаргу жадае, каб мы слухалі Яго навучанні, каб разважалі іх і рэалізавалі ў штодзённым жыцці, паколькі "шчаслівыя, хто слухае слова Божае і захоўвае яго" (Лк 11, 28).

**Дарагія Чытачы!**

Будзьма адважнымі вызнаўцамі Хрыста. Кіруймася Евангеллем у сваіх рашэннях, у мысленні і дзеяннях. Давайце весці жыццё, годнае вучняў Езуса, а Шкаплерная Каралева няхай будзе для нас прыкладам.

ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах дабрачыннай паслугі

Хрыстос праз свае словы і ўчынкі аб'явіў нам Бога, багатага на міласэрнасць. Ён з любоўю схіляўся над людзьмі, якія спазналі духоўнае ці фізічнае цярпенне. Заахвочваў вучняў наследаваць Усемагутнага, кажучы: "Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны" (Лк 6, 36). Езус дапамог нам усвядоміць, што паслуга любові да ўбогіх ніколі не згубіць сваю актуальнасць, таму што "ўбогіх заўсёды маеце пры сабе" (Ян 12, 8). Таму відавочна, што І Сінод Гродзенскай дыяцэзіі не можа ўхіліцца ад разважанняў над дабрачыннай справай.

З 1992 года на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі дзейнічае Рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас»". Гэтая ўстанова каардынуе касцёльную місію дапамогі патрабуючым, праводзячы яе ў межах свайго статута, а таксама распаўсюджвае каталіцкія дабрачынныя прынцыпы. Да асноўных заданняў "Карытас" належыць аказанне дапамогі індывідуальным асобам, а таксама пэўным сацыяльным групам: сіротам, шматдзетным сем'ям, пажылым людзям, хворым, адзінокім, бяздомным, вязням і іншым патрабуючым. Сфера дзейнасці ўстановы распаўсюджваецца на правядзенне дабрачынных акцый і свят, а таксама арганізацыю адпачынку для дзяцей.

Сінадальная камісія падкрэслівае, што Дыяцэзіяльнаму дабрачыннаму таварыству належыць супрацоўнічаць са свецкімі ўстановамі, супольнасцямі іншых канфесій, а таксама падтрымліваць кантакты за мяжой, заключаць неабходныя для гэтага дагаворы і пагадненні, калі яны не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь і яе міжнародным абавязацельствам. Звяртае ўвагу на патрэбу заснавання парафіяльных і дэканальных аддзелаў "Карытас", каб у супрацоўніцтве з дыяцэзіяльным інстытутам пашыраць справы міласэрнасці на асобных тэрыторыях.

Камісія адзначае, што важнае значэнне для дыяцэзіі мае падтрымліванне дзейнасці дабрачынных пляцовак, такіх як сталоўка для бедных, сацыяльны і аптэчны пункт, цэнтр грамадскай і дабрачыннай дапамогі. Лічыць неабходным заснаванне новых пляцовак, а ў прыватнасці арганізацыю парафіяльных дабрачынных спраў, якія вынікаюць з патрэб канкрэтнай супольнасці.

Члены Камісіі, якія маюць вопыт у служэнні патрабуючым, прагнуць яшчэ раз прыглядзецца да Гродзенскага Касцёла, каб разам адказаць на пытанні, як спраўвіцца з людской беднасцю – матэрыяльнай і духоўнай.

Молімся да міласэрнага Бога, просячы адкрытасці сэрцаў на няшчасці бліжніх, а таксама святла Святога Духа, каб умець годна спраўляцца са спатканымі цяжкасцямі.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# МАРЫЯ МАГДАЛЕНА – СВЕДКА БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ



Св. Марыя Магдалена з'яўляецца біблійнай пастаццю. З Новага Запавету ведаем, што яна належала да кола бліжэйшых вучняў Езуса, дзякуючы чаму была відавочцам большасці падзей, звязаных з пасхальнай справай Збаўцы. Побач з Маці Божай яна верна стаяла пад крыжам, на якім быў распяты Езус Хрыстус (параўн. Мц 27, 55–56; Мк 15, 40–41; Ян 19; 25–27). Была першай, хто сустрэў уваскрослага Месію, каб пазней абвясціць Добрую Навіну апосталам (параўн. Мц 28, 1–11; Мк 16, 1–8; Лк 24, 1–11; Ян 20, 1–18). Праўдападобна, знаходзілася таксама сярод жанчын, сабраных з апосталамі, якія чакалі спаўнення абяцання спаслання Святога Духа (параўн. Дз 1, 14).

"Як вядома, у традыцыі Заходняга Касцёла, асабліва з часу св. Рыгора Вялікага, асобу Марыі Магдалены часта атаясамліваюць з жанчынай, якая ў доме фарысея да Марыі Магдалены" (абп Артур Рашэ, "Апосталка апосталаў").

Нягледзячы на тое, што сёння Марыю Магдалену не атаясамліваюць з распусніцай, якая ў доме фарысея Сымона намасціла алеем ногі Езуса (параўн. Лк 7, 38), аднак, як кожны чалавек, яна здзейсніла ў сваім жыцці не адзін грэх. Апостал Павел у Пасланні да Рымлянаў піша: "Бо ўсе зграшылі і пазбаўлены Божай славы" (Рым 3, 23). І Марыя Магдалена не з'яўляецца выключэннем. Ёй патрэбна была сустрэча з Хрыстом і Яго прабачаючай любоўю, патрэбна было акунуцца ў Божую міласэрнасць, каб атрымаць аздараўленне душы. Перш чым стаць сведкам уваскрасення Езуса, жанчына праз шчырае навяртанне дзякуючы ласцы Пана перажыла сваё асабістае духоўнае ўваскрасенне.

Евангеллі не падаюць апісання першай сустрэчы Марыі Магдалены лічбай, якая ўтварае поўню, адсюль сем злых духаў азначаюць вялікія цярпенні, цяжкую хваробу, абсалютную ступень апантанасці д'яблам. Бясспрэчна, гэта было для Марыі Магдалены прычынай няшчасця, клеймавання ці нават асуджэння. Адчувала ізаляванасць ад грамадства, адасобленасць. ад трагізму стану, у якім знаходзіцца чалавек, Збаўца мае моц поўнасцю аздаравіць яго душу і цела, вызваліць ад моцы зла – граху, граху і ад любой слабасці, даць яму новае жыццё і ўчыніць відавочцам свайго Уваскрасення. Жыццё Марыі Магдалены сведчыць аб гэтым лепш за ўсё.

***Жадаючы падкрэсліць значэнне св. Марыі Магдалены для Касцёла, Святы Айцец Францішак у 2016 годзе пастанавіў яе штогадовы абавязковы ўспамін 22 ліпеня ўзвесці ў Рымскім календары ў ранг свята.***

Сымона намасціла ступні Езуса духмяным алеем, а таксама з Марыяй, сястрой Лазара і Марты. Гэтая інтэрпрэтацыя трывала на працягу стагоддзяў і мела ўплыў на хрысціянскіх пісьменнікаў, рэлігійнае мастацтва і літургічныя тэксты, якія адносяцца да святой. Баландысты вельмі шырока акрэслілі праблему ідэнтыфікацыі гэтых трох жанчын, рыхтуючы падставу для літургічнай рэформы Рымскага календара. Разам з яе ўвядзеннем тэксты Рымскага імшала, Літургіі гадзін і Рымскага мартыралога адносяцца ўжо толькі з Езусам. Ведаем, што яна была адной з жанчын, якіх Збаўца "вызваліў ад злых духаў і ад слабасці" (параўн. Лк 8, 2–3). Апантанасць тады не была чымсьці выключным. Гэтай з'яве часта спадарожнічалі розныя фізічныя захворванні. Існавала таксама перакананне, што хвароба – эфект уздзеяння д'ябла (параўн. Лк 13, 16).

У Новым Запавеце двойчы знаходзім згадку аб тым, што з Марыі Магдалены "выйшла сем злых духаў" (параўн. Мк 16, 9; Лк 8, 2). Іх уплыў на жанчыну меў быць вельмі вялікі. Сямёрка з'яўляецца Аднак Пан прабачыў ёй усе грахі і збавіў як ад пакут, выкліканых злым духам, так і ад немачы. Дзякуючы гэтаму аказалася ў коле асоб, якія спадарожнічалі Езусу. Хрыстос стаў для жанчыны ўсім жыццём, якое прысвяціла Яму. Накіроўвалася за Збаўцам усюды, служачы ад усяго сэрца. Мела вялікую любоў да Пана Езуса, і Ён ахінаў яе шчырай любоўю.

Спатканне Марыі Магдалены з Хрыстом поўнасцю змяніла яе саму і яе жыццё ў лепшы бок. Бог чакае кожнага з нас, чакае сустрэчы з намі ў веры. Незалежна

Сёння Марыя Магдалена – прыклад сапраўднага евангелізатара. Св. Рыгор Вялікі назваў яе "сведкам Божай міласэрнасці", а св. Тамаш Аквінскі – "апосталкай апосталаў". Св. Тэрэза з Лізьё так піша ў "Гісторыі адной душы", узгадваючы гэтую святую жанчыну: "Перш за ўсё, я пераймаю паставу Магдалены, яе надзвычайную, а правільней сказаць поўную любові мужнасць, якая зачароўвае сэрца Езуса, а таксама захапляе і маё сэрца".

І няхай такая яе пастаць заступаецца за нас!

*Кс. Аляксандр Сямінскі*




## Малітва да св. Марыі Магдалены

**Святая Марыя з Магдалы, сведка Місіі, Мукі і Хвалы Езуса, якая ўсіх уразіла пашанай і праслаўленнем Пана, а таксама палымянай любоўю, якой Яго акружала, праўдзі нас дарогай адарацыі Хрыста. Абудзі веру ў Яго бязмежную любоў і жаданне прабачыць кожнаму: вернаму і грэшніку. Злітуйся над тымі, хто заблукаў, заблытаўся ў граху, хто зняволены гэтым светам, і праўдзі іх да ног Езуса, дзе ў слязах пакаяння прызнаюць сваю віну і будуць ачышчаны.**

**Святая Марыя Магдалена, якая стаяла пад Крыжам, вядзі нас дарогай мужнасці ў цярпеннях, каб мы, несучы свой уласны крыж, памяталі пра Кроў Пана, якая была праліта за кожнага чалавека. Святая Марыя, якая вітала Уваскрослага, умацоўвай нас у веры, як вучняў, якія ўсумніліся, і бараніце, каб не надавалі лішняй увагі справам гэтага свету. Няхай уваскрослы Езус будзе дарогай і мэтай нашага жыцця, як быў мэтай твайго. Праз Хрыста, Пана нашага. *Амэн.***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Тыя, хто ідзе за Хрыстом, заклікаць сувымяраць сябе з Ім. Евангеліст Лука прапануе нам трох герояў – так бы мовіць, тры выпадкі паклікання – якія падкрэсліваюць, што патрабуецца ад тых, хто хоча да канца ісці за Езусам.*

*Першы герой абяцае Яму: "Я пайду за Табою, куды б Ты ні пайшоў" (Лк 9, 57). Вельмі шчодра! Але Езус адказвае, што Сын Чалавечы, у адрозненне ад ліс, якія маюць норы, і птушак нябесных, у якіх ёсць гнёзды, "не мае, дзе схіліць галаву" (Лк 9, 58). Абсалютная беднасць Хрыста! Ён, па сутнасці, пакінуў бацькоўскі дом і адмовіўся ад бяспекі на карысць абвяшчэння Божага Валадарства для згубленых авечак свайго народа. Такім чынам, Езус прадэманстраваў нам, што місія Яго вучняў у свеце не можа быць статычнай – яна з'яўляецца вандроўнай. Хрысціянін – гэта вандроўнік.*

*Другая асоба, з якой сустракаецца Езус, атрымлівае заклік непасрэдна ад Яго, але адказвае: "Пане, дазволь мне спачатку пайсці і пахаваць айца майго" (Лк 9, 59). Гэта законная просьба, заснаваная на запаведзі пашаны да бацькі і маці (параўн. Зых 20, 12). Аднак Езус адказвае: "Пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых" (Лк 9, 60). З дапамогай гэтых наўмысна правакацыйных слоў Ён мае намер пацвердзіць першынства прытрымлівання і абвяшчэння Божага Валадарства нават перад самымі важнымі рэчамі, такімі як сям'я. Неабходнасць распаўсюджвання Евангелля, якое парушае ланцуг смерці і адкрывае вечнае жыццё, не прызнае затрымак, але патрабуе гатоўнасці. Таму Касцёл не з'яўляецца пасіўным. І дзейнічаць хутка, цяпер, не чакаючы – мае для яго вырашальнае значэнне.*

*Трэці чалавек таксама хоча ісці за Езусам, але пры адной умове: ён зробіць гэта пасля развітання з роднымі. І Настаўнік кажа так: "Ніводзін, хто паклаў руку сваю на плуг і азіраецца назад, не надаецца да Валадарства Божага" (Лк 9, 62).*

*Касцёл, для таго, каб ісці за Езусам, павінен быць вандроўным, дзейнічаць неадкладна, спешна і рашуча. Гэтыя ўмовы ўстаноўлены Збаўцам – вандроўнасць, гатоўнасць і рашучасць, – тут не можа быць ніякіх "не" для добрых і важных рэчаў у жыцці. Акцэнт, хутчэй, павінен быць зроблены на галоўнай мэце: стаць вучнем Хрыста! Гаворка ідзе пра свабодны і свядомы выбар, зроблены з любові, узаемна да бясцэннай ласкі Божай, а не як спосаб прасоўвання сябе. Гора тым, хто думае, што яны ідуць за Езусам, каб зрабіць кар'еру, адчуць сябе важнымі або заняць прэстыжнае месца. Хрыстос хоча, каб мы захапляліся Ім і Евангеллем.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі" ў Ватыкане, 30.06.2019*



◆ *Ватыканская дыкастэрыя па справах свецкіх, сям'і і жыцця падала тэмы, выбраныя Святым Айцом Францішкам для адзначэння Сусветных дзён моладзі. 2 бліжэйшыя абдудуцца ў дыяцэзіях, а чарговыя будуць месць міжнародны характар і пройдуць у Лісабоне (Партугалія). Тэма СДМ на 2020 год – "Хлопча, кажу табе, устань" (Лк 7, 14), на 2021 год – "Устань! Я зраблю цябе сведкам таго, што ты бачыў" (параўн. Дз 26, 16). У 2022 годзе моладзь будзе разважаць над тэмай "Сабраўшыся, Марыя паспяшыла" (параўн. Лк 1, 39).*

◆ *У кастрычніку бягучага года адбудзецца кананізацыя 5-ці блаславёных. Найбольш вядомы з будучых святых – кард. Джон Генры Ньюман (1801–1890), славуты тэолаг і пісьменнік, заснавальнік Араторыя св. Філіпа Нэры ў Англіі. Кананізаваны будуць таксама с. Джузэпіна Ваніні (1859–1911) – заснавальніца кангрэгацыі Дачок св. Каміла ў Італіі; с. Марыя Тэрэза Кірамэль Манкідыян (1876–1926) – заснавальніца кангрэгацыі Сясцёр Святой Сям'і ў Індыі; с. Дульчэ Лопэс Понтэс (1914–1992) з Кангрэгацыі Сясцёр Місіянерак Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Бразіліі; Маргарыта Бэйз (1815–1879) – верніца са Швейцарыі, панна, член Францішканскага ордэна свецкіх.*

◆ *Для духоўных і кансэкраваных асоб, якія служаць у правінцыі Фуцзянь (Кітай), мясцовыя ўлады выдалі да падпісання дакумент. У ім прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла абавязваюцца не праводзіць для дзяцей і моладзі катэхетычных заняткаў. Акрамя таго, пад забаронай любыя кантакты з католікамі з-за мяжы, а таксама евангелізацыя і прамовы на рэлігійныя тэмы ў інтэрнэце. У выпадку непадпісання дакумента служэнне на тэрыторыі краіны стане немагчымым. Жорсткія абмежаванні накладваюцца і ў іншых правінцыях Кітая.*

◆ *Больш за 111 мільёнаў еўра сабраў у мінулым годзе Папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе". На гэтыя сродкі рэалізавана звыш 5-ці тысяч праектаў у 139-ці краінах свету. Большасць з іх была праведзена ў Афрыцы і на Блізкім Усходзе. Дабрачынная арганізацыя існуе ўжо 72 гады. Яе практыка дазваляе ўтрымліваць аднаго з 10-ці святароў на свеце. Кожныя 22 секунды адпраўляецца св. Імша ў інтэнцыі 330-ці тысяч дабрачынцаў Папскага фонда.*

◆ *Найбуйнейшы ў свеце сайт аб падарожжах "TripAdvisor" прадставіў рэйтынг лепшых турыстычных маршрутаў (яго складаюць самі карыстальнікі). У бягучым годзе самы высокі бал атрымаў 3-гадзінны тур па Ватыкане, які ўключае наведванне сабора св. Пятра і Сіксцінскай капэлы. Турысты сышліся на думцы, што гэта больш цікава, чым дайвінг у Ісландыі, вярблюд-сафары у Дубаі, веласіпедныя туры па Гранд-Каньён і нават парашутны прыжок праз швейцарскія Альпы.*

*aleteia.org; ekai.pl; vaticannews.va*

# ДУХОЎНЫ ЦЭНТР КУЛЬТУ МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ

● працяг са с. 1



*Пра шкаплерную набожнасць і развіццё культу Маці Божай у гудагайскім абразе расказвае а. Аркадзь Куляха OCD, былы правінцыяльны дэлегат айцоў кармэлітаў босых у Беларусі.*

***– Сёння ў гудагайскай парафіі служаць айцы кармэліты. А. Аркадзь, раскажыце, калі ласка, аб галоўных элементах кармэліцкай духоўнасці.***

– У Палестыне ёсць гара, якая называецца Кармэль. Можам прачытаць пра яе ў Святым Пісанні. З Кармэлем звязаны лёс прарока Іллі, які ў VIII стагоддзі да нараджэння Хрыста маліўся там і дзейнічаў, распалены руплівасцю дзеля хвалы Пана. У хрысціянскія часы на гары Кармэль сяліліся пустэльнікі, якія прагнулі адасобленых зносін з Усемагутным. Менавіта там на пачатку XIII стагоддзя паўстаў ордэн айцоў кармэлітаў. Па просьбе пустэльнікаў, якія жадалі служыць Богу і пераймаць прарока Іллю, тагачасны патрыярх Ерусаліма св. Альберт напісаў кармэліцкі статут, у якім пералічвае найважнейшыя рысы духоўнасці ордэна: з'яднанне з Богам, трыванне ў Божай прысутнасці і малітве, працоўны дух, братэрскае жыццё ў супольнасці, служэнне Касцёлу, а таксама марыйнасць.

***– Як у кармэліцкай супольнасці з'явіўся культ святога шкаплера?***

– Пасля паражэння Крыжовых паходаў і захопу Святой Зямлі мусульманамі манахі вымушаны былі ўцякаць з Палестыны. Тыя, хто застаўся, былі забітыя. Айцы кармэліты эмігрыравалі ў Еўропу. Там яны сустрэліся з непаразуменнем: прыбылі на хрысціянскі Захад з "усходняй" манастырскай традыцыяй.

Калі ордэну пагражала скасаванне, манахі маліліся праз заступніцтва Маці Божай. Традыцыя падае, што ўначы з 15 на 16 ліпеня 1251 года генералу айцоў кармэлітаў Сымону Стоку аб'явілася Марыя. Яна абяцала дапамагчы, кажучы: "Любімы сын Мой! Прымі шкаплер твайго ордэна, прывілей для цябе і ўсіх кармэлітаў. Хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага. Гэта знак збаўлення, ратунак у небяспеках, запавет спакою і вечнага абяцання". Гісторыя пацвярджае, што пасля ўмяшання Маці Божай ордэн быў "легалізаваны" ў Еўропе, а шкаплернае набажэнства шырока распаўсюдзілася ў Касцёле.

***– Што ўяўляе сабой шкаплер?***

– Шкаплер – гэта 2 кавалкі сукна карычневага колеру, якія сімвалізуюць шату Марыі, што носяць айцы кармэліты. Першы, які спадае на плечы, прыгадвае, што шчодрые клопаты застаюцца пад апекай Маці Божай. Другі ж, які спускаецца на грудзі, азначае, што сэрца чалавека павінна біцца для Бога і бліжніх, у імя любові.

Не толькі сукновы шкаплер, але і медальён з выявамі Маці Божай і Найсвяцейшага Сэрца Езуса з'яўляецца знакам асаблівай сувязі, што яднае Марыю з Яе дзецьмі. Можна сказаць, гэта памяткі апекі Багародзіцы. Асоба, якая носіць шкаплер, выражае такім чынам жаданне прыпадабнення да Беззаганнай у чыстасці, вернасці, любові і паслухмянасці.

***– Адно з абяцанняў, звязаных з кармэліцкім шкаплерам, – "хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Як правільна разумець гэтыя словы?***

– Шкаплерная прывілея гучыць наступным чынам: "хто памрэ ў ласцы Бога, у з'яднанні з Марыяй, дзякуючы Яе заступніцтву дойдзе да вечнага збаўлення". Набожны чалавек, злучаны з Багародзіцай, можа цешыцца Яе асаблівай апекай на працягу ўсяго жыцця, а таксама ў гадзіну смерці. Памылкова разлічваць на тое, што праз гэтае абяцанне Найсвяцейшая Маці дала дазвол грашыць і ламаць Божыя запаведзі. Такая пастава з'яўляецца сатанінскім скажэннем, насмешкай над Стварцам: "жыві як хочаш, грашы колькі хочаш, толькі насі шкаплер – і будзеш збаўлены".

***– Якія існуюць формы ўшанавання Маці Божай Шкаплернай?***

– Марыя прыходзіць да чалавека з ласкай, але чакае нашага адказу на Яе дары. Да абавязкаў тых, хто носіць кармэліцкі шкаплер, належыць штодзённая малітва. Часцей за ўсё гэта вядомая форма даручэння Марыі "Тваёй абароне". Вернік таксама можа адпраўляць марыйныя навэнны, адгаворваць літаніі, Літургію гадзін, Ружанец ці іншыя малітвы, разважаць Божае слова, часта ўдзельнічаць у Эўхарыстыі і трываць у Божай прысутнасці, рупліва выконваючы свае абавязкі. Акрамя гэтага, існуе практыка з'яднання з Мукай Хрыста праз добраахвотныя адмовы і супольнае цярпенне з Езусам па прыкладзе Марыі. Нават кароткі малітоўны заклік "Маці Божая Шкаплерная, маліся за нас" можа паспрыяць камуніі з Беззаганнай.

***– Як развіваецца культ Маці Божай Шкаплернай у Беларусі? Што айцы кармэліты робяць сёння ў дадзеным накірунку?***

– Асаблівымі мясцамі шкаплернай набожнасці ў краіне з'яўляюцца святыні ў Гудагаі, Нарачы, Мядзелі і Мінску, дзе служаць айцы кармэліты. У многіх парафіях укараніўся звычай прыняцця шкаплера дзецьмі, якія прыступілі да Першай св. Камуніі. Акрамя таго, пробашчы запрашаюць нас для правядзення рэкалекцый, дзён засяроджання і набажэнстваў, прысвечаных Маці Божай Шкаплернай, падчас якіх маем магчымасць "рэкламаваць" шкаплерны культ, а таксама кармэліцкую духоўнасць.

***– Што асабіста для Вас значыць Гудагай?***

– Асабіста для мяне гэта месца, дзе выспяваў у пакліканні да манаскага і святарскага жыцця. Калі я быў яшчэ клерыкам, менавіта там праводзіў час канікул і святочныя дні, а пазней праходзіў дыяканскую практыку. Пасля атрымання святарскіх пасвячэнняў на працягу амаль 2-ух гадоў рабіў там першыя крокі пры алтары, за амбонам і ў канфесіянале пад пільнай апекай Беззаганнай і з дапамогай маіх братоў кармэлітаў. Гэта там перад абразом Маці Божай Гудагайскай пазнаваў, што Бог ёсць Любоў, а Марыя – наша Заступніца.

***– Абраз славіцца шматлікімі ласкамі. Ці маглі б расказаць пра выпадкі цудаў, якія аказалі на Вас найбольшае ўражанне?***

– З нагоды каранацыі абраза ў парафіі рыхтавалася кніга пра Гудагай, і мне давялося прачытаць дастаткова сведчанняў. Вельмі ўразіў выпадак з 1779 года, калі захварэла 4-гадовая Зося. Яна не магла есці і некалькі дзён ляжала ў гарачцы. Урач не даваў надзеі на тое, што дзяўчынка выжыве, таму яе маці пайшла да айцоў кармэлітаў з просьбай адправіць св. Імшу перад цудатворным абразом Багародзіцы. У час Эўхарыстыі жанчына разам са старэйшай дачкой малілася аб ласцы здароўя для свайго дзіцяці. І здарыўся цуд! Зося была аздароўлена. У знак удзячнасці маці дзяўчынкі склала вотум у форме сэрца са срэбра.

З сучасных сведчанняў у памяці захаваліся апавяданні Міхала Вайцяхоўскага, удзельніка II Сусветнай вайны, які быў ранены на фронце. З асколкам кулі ў сэрцы ён дажыў да позняй старасці (памёр у 2015 годзе), сцвярджаючы з упэўненасцю, што яго ацаліла Маці Божая Гудагайская.

***– Што Вы як саарганізатар каранацыі абраза Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі можаце сказаць пра значэнне і важнасць гэтай цырымоніі для Касцёла?***

– Каранацыя з'яўляецца выразам асаблівай пашаны, аказваемай Езусу Хрысту і Яго Маці, якая з'яднана са сваім Сынам, удзельнічае ў Яго славе. Згодна з прадпісаннямі Касцёла, можна каранаваць абраз, які карыстаецца асаблівай пашанай вернікаў і вядомы сваімі цудамі. Істотнасць гэтай падзеі пацвярджаецца таксама тым, што яна выконваецца біскупам ад імя Папы, што сведчыць аб яе асаблівым характары.

Памятаю вялікую зацікаўленасць усёй мясцовай супольнасці, можна нават сказаць, усяго раёна разам са свецкімі ўладамі ў годнай падрыхтоўцы гэтай урачыстасці. Многія добраахвотнікі працавалі з радасцю, як у родным доме. Лічу гэта праяўленнем вялікай любові да Марыі – Нябеснай Маці.

Урачыстасць каранацыі гудагайскага абраза ўзначаліў светлай памяці кард. Казімір Свёнтэк – сведка веры і вялікі прыхільнік Маці Божай. Гэта ён са слязамі на вачах дрыжачымі рукамі ўсклаў пабласлаўленыя папам Янам Паўлам II каралеўскія дыядэмы на скроні Езуса і Марыі. Урачыстая падзея ў Гудагаі стала выразам глыбокай веры мясцовага Касцёла, а таксама пацвярджэннем, што ён застаецца пад асаблівай апекай Марыі.

***– Многія ласкі людзі выпрошваюць падчас Крыжовага шляху на гудагайскай Кальварыі. Як яна паўстала?***

– Мясцовыя душпастыры доўгі час выношвалі ідэю стварыць падабенства Кальварыі ў Вільнюсе менавіта пры санктуарыі Маці Божай Шкаплернай. Мне пашчасціла таксама ўнесці пэўны ўклад у гэтую справу. У 2008 годзе з нагоды Божага Нараджэння я наведваў братоў у Гудагаі. Пакольк было не вельмі шмат снегу, выбраўся на шпацыр. Перад маімі вачыма распасцёрся прыгожы краявід. Я падзяліўся "адкрыццём" з а. Казімірам Мараўскім, пробашчам парафіі. Вясной наступнага года разам з парафіянамі ён прыступіў да падрыхтоўкі трасы Кальварыі.

Я быў вельмі ўражаны, назіраючы за актыўным удзелам вернікаў у гэтай справе. Яны выкарчоўвалі кусты, выкошвалі траву і пазбаўляліся ад пустазелля. 16 ліпеня 2009 года біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў 18 крыжоў, якія вернікі неслі да месцаў асобных стацый. Гэта было, бадай, найпрыгажэйшае набажэнства Крыжовага шляху, у якім я ўдзельнічаў. З таго часу на мясцовай Кальварыі некалькі разоў на год адбываюцца пакутныя набажэнствы. А напярэдадні адпусту Маці Божай Шкаплернай тут моляцца сапраўдныя тлумы людзей. Прыбываюць таксама групы з іншых парафій і асобныя вернікі.

***– У чым, на Вашу думку, выключнасць гудагайскай Кальварыі?***

– Думаю, людзей прыцягваюць унікальныя краявіды і атмасфера супольнай малітвы, якая ствараецца падчас набажэнства. Гудагайская Кальварыя працягласцю тры з паловай кіламетры праходзіць праз маляўнічыя хвалістыя палі, уваходзіць у густы цёмны лёс, дзе пераадольванне некаторых пагоркаў патрабуе немалых намаганняў. З Гары трох крыжоў, сімвала смерці Езуса, раскрываецца цудоўны від на наваколле. Сімвалічнай і важнай з'яўляецца апошняя стацыя "Езуса кладуць у грабніцу і Уваскрасенне", якая знаходзіцца пасярод могілак. Гэта своеасаблівы выраз веры ва ўваскрасенне не толькі Хрыста, але і ўсіх памерлых.

Красамоўным элементам гудагайскага пакутнага набажэнства з'яўляецца таксама тое, што вернікі нясуць крыж. Жадаючых так шмат, што ствараецца чарга.

***– Што змянілася ў гудагайскай парафіі з часу ўстанаўлення там санктуарыя?***

– Айцы кармэліты прынялі на сябе большую адказнасць за мясцовае душпастырства. Нашай задачай стала пастаянная адкрытасць на вернікаў, якія прыбываюць у святыню. З моманту, калі касцёл атрымаў статус санктуарыя, узнікла патрэба цэлебрацыі большай колькасці св. Імшаў, часцейшай паслугі ў канфесіянале, няспынай гатоўнасці да размовы, спадарожнічання асобам, якім гэта неабходна...

Я да сёння не перастаю здзіўляцца сюрпрызам Божага Провіду. Такі малы касцёл, які ўзвышаецца на гудагайскім узгорку, хоць і не адметны сваёй архітэктурай, стаў вялікім духоўным цэнтрам культу Маці Божай Шкаплернай у Беларусі, дзе сустракаецца сям'я тых, хто носіць шкаплер. Думаю, выкажу пераканансць многіх наведвальнікаў санктуарыя, калі скажу, што ён з'яўляецца свайго роду школай даверу да Бога праз Марыю.

*Ангеліна Марцішэўская*

# СТАРЭЙШАЕ ПАКАЛЕННЕ – СКАРБ ГРАМАДСТВА




**26 ЛІПЕНЯ ПРЫПАДАЕ ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН СВЯТЫХ ЯЎХІМА І ГАННЫ, БАЦЬКОЎ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ, ДЗЯДУЛІ І БАБУЛІ ЕЗУСА ХРЫСТА. ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПАВІНЕН ПРЫГАДАЦЬ УСІМ, НАКОЛЬКІ ВАЖНЫЯ ДЗЯДУЛІ І БАБУЛІ ДЛЯ СЯМ'І І ГРАМАДСТВА. ПРАДСТАЎЛЯЕЦЦА ЦУДОЎНАЯ НАГОДА ДЛЯ МАЛІТВЫ Ў ІХ ІНТЭНЦЫІ І АКАЗАННЯ СТАРЭЙШАМУ ПАКАЛЕННЮ АСАБЛІВАЙ ЗЫЧЛІВАСЦІ.**

## ВУЧАЦЬ, ВЫХОЎВАЮЦЬ, ПЕРАДАЮЦЬ ВЕРУ І ЛЮБОЎ

У адной са сваіх гамілій Святы Айцец Францішак прыгадаў, што старэйшыя асобы – гэта тыя, хто пакідае пэўнае наследдзе: перадае веру, гісторыю, вопыт і мудрасць. Як старое віно, яны маюць унутраную сілу, каб перадаць высакародную спадчыну. “Пажылыя людзі з'яўляюцца для маладых крыніцай мудрасці. Калі бацькоў не было дома або яны вызнавалі дзіўныя ідэалогіі, якія некалі навязваліся палітычнымі ўладамі, менавіта бабулі перадавалі ўнукам веру”, – сцвярджае Папа. Доказам гэтаму могуць быць гісторыі многіх дарослых асоб, якія мелі шчасце ў дзяцінстве выхоўвацца пры дзядулі і бабулі.

***“Сваіх дзядулю Яна і бабулю Стэфанію Крыніцкіх я лічу асаблівымі,*** – расказвае Вольга Кісель. – ***Калі была малой дзяўчынкай, яны рабілі ўсё, што ў іх сілах, каб усмешка не сыходзіла з майго твару. Можна нават сказаць, спаборнічалі паміж сабой, хто «аддасць больш сябе». Навучылі мяне годным адносінам да прыроды, жывёл, паказалі цяжкую працу ў гаспадарцы. Ад іх я атрымала «буквар» веры”.***

Спадарыня Вольга адзначае, што яе бацькі не хадзілі ў касцёл, паколькі належалі да камуністычнай партыі. А дзядуля і бабуля былі практыкуючымі католікамі. ***“Калі я прыязджала ў вёску на выхадныя ці канікулы, першай кніжкай, якую яны давалі мне ў рукі, быў стары малітоўнік,*** – расказвае жанчына. – ***Я не магла яшчэ сама чытаць, таму прасіла бабулю. Да гэтай пары памятаю «здравáські» і «Анёл Панскі», якія мы разам адгаворвалі ў вячэрняй цішыні. Малітва бабулі гучала, як песня, а я старалася паўтараць за ёй. Калі стала старэйшай, дзядуля і бабуля паклапаціліся аб тым, каб я прыступіла да споведзі і Першай Камуніі. Бязмежна ім удзячна за атрыманую ў спадчыну і ўмацаваную веру, якая ўжо на працягу стольkіх гадоў дапамагае мне ў штодзённых жыццёвых цяжкасцях”.***

Сёння спадарыня Вольга сама ўжо бабуля. Яна таксама стараецца быць памяркоўнай, клапатлівай, цярплівай і поўнай любові да сваіх унукаў. ***“Лічу, што не важна закідваць дзяцей каштоўнымі падарункамі. Самае галоўнае – даваць сведчанне веры, а таксама выхоўваць у іх чалавечнасць і дзяліцца любоўю”,*** – дадае жанчына.

## ПАЧУЦЦЁ ЎДЗЯЧНАСЦІ

Некалькі гадоў таму Цэнтр даследавання грамадскай думкі ў Польшчы правеў цікавае апытанне на тэму “Адносіны грамадства да пажылых асоб”. Аказалася, што 56% палякаў заўважаюць у сваім жыцці пазітыўны ўплыў дзядуль ды бабуль і адчуваюць, што чымсьці ім абавязаны. Супрацьлеглай думкі прытрымліваецца толькі чвэрць апытаных.

З даследаванняў вынікае, што малодшыя асобы (ва ўзросце 18–35 гадоў) абавязаны дядулям і бабулям нашмат большым, чым старэйшыя. Сярод іх самую шматлікую групу складаюць вучні і студэнты, а таксама асобы, якія займаюць кіруючыя пасады. 61% удзельнікаў апытання заявілі аб удзячнасці дзядулям і бабулям за пачуццё таго, што яны любімыя. Больш за палову праанкетаваных сцвердзілі, што вера і маральныя прынцыпы былі ім перададзены менавіта дзядулямі і бабулямі.

Псіхолаг Аліна Палубочка адзначае, што многія з нас абавязаны старэйшаму пакаленню сапраўды многім. Дзядулі і бабулі з'яўляюцца дасканалай крыніцай ведаў – яны расказваюць сваім унукам гісторыю сям'і, выхоўваюць у іх пэўныя рысы характару, такія як самадысцыпліна, працавітасць, абавязковасць. Акрамя таго, калі запрацаваныя бацькі не маюць часу, дзядулі і бабулі іх замяняюць, забяспечваючы ўнукам апеку.

***“Сёння бацькі ўсё больш паглынуты працай, маюць больш абавязкаў. Вельмі часта дзецьмі займаюцца менавіта дзядулі і бабулі. Яны вучаць унукаў практычным навыкам, прышчэпліваюць ім маральныя каштоўнасці і прынцыпы, перадаюць жыццёвую мудрасць і, самае галоўнае, дораць безумоўную любоў,*** – гаворыць спадарыня Аліна. – ***Хто, калі не дзядуля ці бабуля, раскажа ўнукам найлепшыя казкі? Хто, калі не яны, будзе баяць ім каляровыя гісторыі з мінулых дзён, у тым ліку сямейныя? Дзядулі і бабулі, якія здольны даць добрую параду, ахвяраваць час, дапамогу і малітву, проста незаменныя. Гэта сапраўдны скарб! Іх роля ў выхаванні ўнукаў бясцэнная”.***

Удзячнасць і павагу старэйшаму пакаленню належыць выказваць кожны дзень. Гэта можна зрабіць усмешкай, пацісканнем далоні, падтрыманнем на духу ў хвіліну смутку ці кубачкам гарбаты пасля стомнага дня. Варта таксама чэрпаць з жыццёвага досведу дзядуль і бабуль, быць з імі, слухаць тое, што хочуць сказаць. Мы павінны нястомна даручаць іх заступніцтву святых Яўхіма і Ганны, а таксама не забывацца маліцца за душы тых, каго ўжо няма побач.

*Паслуга “быцця дзядулем і бабуляй” – гэта чуванне, хоць бы здалёк, над маладымі; гэта добрая парада і дапамога ў жыццёвых клопатах і рашэннях; гэта заахвочванне маладых, каб трывалі побач з Панам Богам; гэта евангелізацыя.*

*Кінга Красіцкая*

**Добры Ойча, Ты знаходзішся побач з чалавекам на кожным этапе яго жыцця.
Дзякую Табе за сталы ўзрост, дзякую за людзей, якія пражылі на гэтай зямлі многія гады.
Дзякую Табе за ўсё тое, што яны зрабілі для чарговых пакаленняў.
Дзякую за тое, што захавалі веру, за тое, што змаглі яе перадаць.
Праз заступніцтва св. Яна Паўла II, які паказаў свету прыгажосць старасці, прашу Цябе, Ойча,
дай людзям у пажылым узросце сілу, каб пераадольваць спакусы штодзённасці, спакусы сумнення,
спакусы адчування сябе непатрэбнымі. Дай ім веру ў тое, што Ты заўсёды ёсць і заўсёды любіш,
нягледзячы на мінулае, нягледзячы на выгляд, нягледзячы на стан здароўя.
Умацуй іх веру ў тое, што з'яўляешся Айцом, багатым на міласэрнасць. *Амэн.***

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

### CatholicNews.by

#### *У Віцебскай дыяцэзіі новы касцёл*

***Святыня пад тытулам свсв. апосталаў Пятра і Паўла асвечана ў Бешанковічах.***

*Урачысты абрад здзейсніў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Напачатку іерарх акрапіў сцены касцёла святой вадой, а пазней намасціў алтар святым алеем. Затым яго заслалі абрусам, пасля чаго распачалася святая Эўхарыстыя.*

*Напрыканцы ўрачыстасці быў падпісаны дэкрэт аб асвячэнні святыні. Разам з віцебскім ардынарыем і пробашчам парафіі кс. Аляксандрам Півавaрам подпіс пад ім паставілі святары, якія раней працавалі ў Бешанковічах і ў гэты дзень прысутнічалі на ўрачыстасці.*

### PCh24.pl

#### *Атэісты супраць веруючага доктара*

***Па справе брытанскага ўрача з медыцынскага цэнтра ў Маргатэ, які маліўся са сваімі пацыентамі, распачата дысцыплінарная справа.***

*Атэісты з “National Sceular Society” патрабуюць звольніць д-ра Рычарда Скота з працы за тое, што закрануў тэму духоўнасці з пацыентамі, калі выконваў свае абавязкі сямейнага ўрача падчас візітаў да хворых людзей.*

*Медык са шматгадовым вопытам работы адзначыў, што яго паводзіны згаджаюцца са стандартамі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якія - ахопліваюць таксама клопат пра духоўны – побач з фізічным і псіхічным – дабрабыт пацыентаў. Узгадаў таксама навуковыя даныя, якія пацвярджаюць, што вера прыносіць карысць для здароўя.*

### niedziela
TYGODNIK KATOLICKI

#### *Сенсацыйнае адкрыццё ў Бэтлееме*

***У базіліцы Нараджэння Пана навукоўцы натрапілі на хрысцільню з часоў позняй антычнасці.***

*Адкрыццё мела месца падчас археалагічных і гістарычных даследаванняў у паўднёвым калідоры святыні. Камень, з якога была выканана хрысцільня, такі ж як камень калон базілікі, што сведчыць пра ранняе яе паходжанне. Да аналізу знаходкі падключаны як палестынскія, так і замежныя спецыялісты.*

*Базіліка Нараджэння Пана ў Бэтлееме ўнесена ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Касцёл быў пабудаваны ў IV стагоддзі па загадзе рымскага імператара Канстанціна над гротам, дзе, згодна з хрысціянскай традыцыяй, нарадзіўся Езус Хрыстус.*

# ДАПАМОЖНІК ПІЛІГРЫМА. ШТО ЎЗЯЦЬ З САБОЙ?

*Лета – час пілігрымак. Да нас няспынна далятае інфармацыя, што якаясьці пілігрымка дабралася да месца прызначэння, якаясьці толькі адпраўляецца. Вандроўка да святых месцаў з'яўляецца часам сапраўды вернай малітвы. Аднак для гэтага неабходны таксама фізічны камфорт. Як яго забяспечыць? Што варта ўзяць з сабой? Прапануем кароткі параднік для пілігрыма.*

### МАЛІТОЎНІК

*Супольная малітва і спеў падчас пілігрымкі вельмі важныя, таму нельга забываць малітоўнік, ружанец і спеўнік з рэпертуарам песень (часцей за ўсё кожная пілігрымка мае ўласны).*

### АДПАВЕДНАЕ АДЗЕННЕ

*Варта спакаваць у сумку баваўняныя шкарпэткі, кашулькі, якія закрываюць плечы, лёгкія штаны ці доўгія спадніцы. Памятайма, што лепшым рашэннем з'яўляецца адзенне светлых колераў, таму што яны не так моцна прыцягваюць сонца. Варта выбраць свабодныя ўборы, каб не абмяжоўвалі рухі. Нягледзячы на тое, што пілігрымкі адбываюцца летам, трэба ўзяць з сабой некалькі цяплейшых рэчаў.*

### ЗРУЧНЫ АБУТАК

*Пілігрымы абуваюць чаравікі для паходаў, спартыўны абутак для бегу ці сандалі. Ступні павінны быць абаронены ад удараў аб цвёрдую паверхню дарогі, таму што ў адваротным выпадку можна іх адбіць. Важна ўзяць з сабой праверааны, расходжаны абутак. Добрай практыкай з'яўляецца надзяванне дзвюх пар шкарпэтак: адна пара, што прылягае да ступні, – тонкія баваўняныя шкарпэткі, "дыхаючыя"; другая ж – таўсцейшыя, напрыклад, шарсцяныя.*

### ГАЛАЎНЫ ЎБОР І ПОСУД

*Вельмі важна абараняць галаву ад пякучага сонца. Кожны можа выбраць штосьці для сябе: кепка, капялюш, касынка... На прыпынках галаўны ўбор можна змачыць вадой, каб такім чынам хаця б на некаторы час астудзіцца. Варта мець пры сабе дадатковы шалік, каб прыкрыць шыю.*

*Таксама спатрэбіцца кубак, міска і лыжка (лепш за ўсё з нябіткога матэрыялу).*

### ДАКУМЕНТЫ

*Можа спатрэбіцца пашпарт, а таксама ўсе дакументы, звязаныя з гісторыяй хваробы або праблемамі са здароўем. У выпадку, калі штосьці здарыцца, яны дапамогуць хутчэй уладзіць усе фармальнасці.*

### АПТЭЧКА І АСНОЎНЫЯ КАСМЕТЫЧНЫЯ СРОДКІ

*У аптэчцы павінны быць асноўныя абязбольваючыя і жарапаніжальныя сродкі, бактэрыцыдныя пластыры, эластычныя бінты, актываваны вугаль. Калі ў асобы ёсць алергія на што-небудзь або яна штодзённа прымае пэўныя лекі, павінна ўзяць іх з сабой.*

*У дарозе спатрэбяцца гігіенічныя сурвэткі і вільготныя хустачкі, антыбактэрыйны гель. Падчас спякоты варта памятаць пра выкарыстанне крэма з фільтрам, каб пазбегнуць паражэнняў скуры.*

### ДАЖДЖАВІК, КАРЭМАТ І СПАЛЬНІК

*Дажджавік неабходны ў выпадку раптоўных дажджоў. Ён лепшы за куртку, таму што пад ім можна схаваць таксама заплечнік. Акрамя таго, ён хутчэй сохне.*

*Спальны мяшок спатрэбіцца на начлегах у школах ці дамах культуры. Варта ўзяць з сабой невялікі карэмат, каб камфортна было адпачываць падчас прыпынкаў. Часам, у залежнасці ад тыпу пілігрымкі, варта мець з сабой таксама палатку.*

### ДОБРЫ НАСТРОЙ

*Пілігрымка – гэта ў значнай ступені час, каб завязваць новыя знаёмствы, размаўляць, жартаваць, спяваць. Гэта не толькі цяжкасці дарогі, але і цудоўная нагода, каб заражаць іншых добрым настроем, сваёй шчырай радасцю, даючы сведчанне таго, што з'яўляемся ўмілаванымі Божымі дзецьмі.*

### Пілігрым, памятай!

- *Абавязкова штодзённа прымай удзел у св. Імшы.*
- *Не адкладвай сакрамант пакаяння на апошнія дні пілігрымкі, каб мець магчымасць з пачатку дарогі поўнасцю ўдзельнічаць у Эўхарыстыі.*
- *Будзь пунктуальны, захоўвай дысцыпліну.*
- *Пілігрыму НІЧОГА не павінны! Будзь удзячны нават за найменшы жэст зычлівасці, шануй кожны пачастунак, прыгатаваны людзьмі добрай волі.*
- *На прыпынках і начлегах пакідай пасля сябе чысціню і парадак.*
- *Будзь зычлівы, клапаціся пра духоўны клімат.*

*Кінга Красіцкая*

# ЯК ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА НАРАДЖЭННЯ ДЗІЦЯЦІ

***Жанчына, якая даведваецца, што чакае дзіця, перапоўнена радасцю і трапяткім хваляваннем. Яе могуць непакоіць пытанні: "Ці стану я добрай маці?", "Што павінна даць свайму немаўляці, каб выхаваць з яго годнага чалавека?". Адчуваць некаторае замяшанне нармальна – наперадзе такая адказнасць!***

### ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА ДУХОЎНЫ ІМУНІТЭТ

Знаходзячыся ў рэжыме "павышанай заклапочанасці" будучая маці можа зачытвацца выхаваўчай літаратурай, рыхтаваць для дзіцяці прыгожыя рэчы. Некаторыя наведваюць спецыяльныя курсы, бяруць кансультацыі ў сяброўак "з вопытам". І ўсё гэта, вядома, патрэбна. Аднак найважнейшае, што можа зрабіць жанчына ўжо на этапе падрыхтоўкі да сустрэчы з немаўлём, – ахвяраваць сябе і дзіця Богу.

Роўна з тым, як плод ва ўлонні маці мае патрэбу ў пажыўных рэчывах, каб паўнавартасна развівацца, ён мае патрэбу ў іншых вітамінах, духоўных – гэта гарантуе духоўны імунітэт. "У прэнатальным перыядзе жанчына фарміруе не толькі арганізм дзіцяці, але ўскосна поўную яго чалавечнасць", – сцвярджаў св. Ян Павел ІІ. Такім чынам, будучая маці павінна маліцца за сваё дзіця ў розных інтэнцыях! Аб здароўі, добрым фарміраванні і росце, шчаслівым нараджэнні, годным станаўленні і г. д. Жанчыне таксама належыць маліцца за сябе. Цяпер яна з дзіцяткам складае адно цэлае: усё, што адбываецца з ёй, мае ўплыў на маляня.

Цяжарная жанчына ў любы час можа звярнуцца да святара за спецыяльным благаслаўленнем. Падчас яго Бог дакранаецца да сэрца будучай маці, адорваючы яе багаццем ласк і дабротаў. У Касцёле існуе звычай блаславлення цяжарных жанчын. Ён здзяйсняецца ў свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (8 снежня). Такая традыцыя таксама мае месца ў дзень літургічнага ўспаміну святых заступнікаў маці, дзяцей, сем'яў, калі яны асаблівым чынам ушаноўваюцца ў пэўнай парафіі.

За асабістым блаславеннем да Бога жанчына звяртаецца запрашаючы ў сваю душу Езуса Хрыста падчас св. Камуніі. І дзіця атрымлівае яго – ужо ва ўлонні сваёй маці спазнае смак Хрыстовага Цела, Божую прысутнасць.

Сам стан цяжарнасці вернікі называюць благаслаўлёным. Жанчына лічыцца выбранай Стварцам для выношвання і нараджэння на свет новага чалавека. Гэта заўсёды Божая ласка. Гэта заўсёды Божы план, у якім бацькі з'яўляюцца супрацоўнікамі. Іх галоўная задача – прыняць гэты дар. Бацькоўская місія палягае на тым, каб паставіць дзіця на ногі, выхаваць яго, заклаўшы ў свядомасць правільныя каштоўнасці. А далей ён пойдзе сам дарогай паклікання Нябеснага Айца...

### НЕ МАЛЯВАЦЬ ІДЭАЛІСТЫЧНЫЯ КАРЦІНЫ

Напэўна, нездарма перыяд цяжарнасці трывае каля 40-ка тыдняў. У жанчыны, якая рыхтуецца стаць маці, маецца час, каб прызвычаіцца да новага статуса, настроіцца на шэраг абавязкаў, якія з яго вынікаюць. Важна не маляваць у галаве ідэалістычныя карціны: завышаныя патрабаванні да сябе непарыўна звязаны з расчараваннямі; ды і дзіця можа быць не такім, як уяўлялася. І да гэтага таксама трэба быць падрыхтаваным.

"Вобраз ідэальнай мамы перашкаджае атрымліваць асалоду ад мацярынства, бо такая мама ніколі не злуецца, ніколі не хвалюецца, заўсёды гуляе са сваім дзіцём, – заўважае педагог-псіхолаг Вольга Парада. – Да таго, надуманая ідэальнасць блізкая да неўратызму, і акрамя фрустрацыі нічога не прыносіць у жыццё маці. Дасканалых бацькоў не існуе ў прыродзе, гэтаксама, як не можа існаваць дасканалага чалавека. Па словах брытанскага педыятра і дзіцячага псіхааналітыка Дональда Вудса Віннікота, дзіця мае патрэбу ў «дастаткова добрай маме», якая проста побач, клапоціцца аб ім і абараняе. Жанчына здольна адчуваць і разумець сваё дзіця прыкладна на 70 адсоткаў, а 30 застаецца на няведанне, памылкі, асабістую неідэальнасць. Дональд Віннікот прапануе жанчыне на самым пачатку прыняць сваю недасканаласць. Такая ўстаноўка дапамагае быць у кантакце з дзіцём, не марнуючы сваю энергію на стварэнне неіснуючай ідэальнай карціны".

Інакш кажучы, галоўнае – каб новонароджаны адчуваў сябе прынятым і любімым. Мама – першы чалавек у гэтым свеце, якога ён бачыць і на якога можа спадзявацца. Усведамленне сваёй выключнасці і важнасці спрыяе таму, што ў любой жанчыны вырастаюць крылы. Больш востра адчуваецца мацярынская інтуіцыя, якая дапамагае знайсці з дзіцём агульную мову, зразумелую толькі ім дваім.

Не існуе дрэнных мам – існуе страх жанчыны "недалюбіць" сваё дзіця, недадаць яму нешта. Але для кожнага дзіцяці яго мама найлепшая, якой бы яна ні была. І для гэтага не патрабуецца чагосьці надзвычайнага – проста быць.

*Ангеліна Пакачайла*

НАВІНЫ



## НОВАЯ СВЯТЫНЯ Ў ЛЮБЧЫ

Ва ўрачыстасць свсв. апосталаў Пятра і Паўла біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч з удзелам біскупа Пінскага Антонія Дзям'янкі асвяціў касцёл Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Марыі ад Езуса Укрыжаванага ў Любчы (дэканат Навагрудак).

Урачыстыя мерапрыемствы распачаліся каля ўвахода ў парк перад Любчанскім замкам. У гэтым гістарычным месцы з удзелам пробашча навагрудскай парафіі св. Міхала Арханёла і любчанскага душпастыра кс. Юрыя Жэгарына быў адкрыты памятны знак, у які святар уклаў грамату "Дзеля памяці наступным пакаленням".

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў касцёл Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Андрэя Баболі ў Мінойтах (дэканат Ліда) у 90-ую гадавіну яго асвячэння. Іерарх падзякаваў пробашчу кс. Андрэю Радзевічу за душпастырскую паслугу, а парафіянам – за іх сведчанне веры.

Юбілей 150-годдзя з моманту асвячэння адзначала парафіяльная святыня свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Гожы (дэканат Гродна-Усход). Урачыстую св. Імшу падзякі за ўсіх будаўнікоў касцёла, душпастыраў і вернікаў узначаліў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Іерарх заахвоціў прысутных "працягваць далей напаўняць святыню надзеяй, уласцівай Евангеллю, каб, выходзячы з яе, існі і па прыкладзе апекуноў парафіі абвяшчаць Езуса ўсюды там, куды накіруе Пан Бог".

### ПІЛІГРЫМКІ



Пад канец чэрвеня ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай з парафій Гродзенскай дыяцэзіі накіраваліся 3 пешыя пілігрымкі: з Ліды, Смаргоні і Гудагая. Першымі вырушылі да Марыі паломнікі з Ліды. На працягу 9-ці дзён яны пераадолелі шлях працягласцю 250 кіламетраў. Адметнасцю юбілейнай 20-ай салезіянскай моладзевай пілігрымкі, якая стартавала са Смаргоні, былі традыцыйныя евангелізацыйныя вечары для мясцовых жыхароў, падчас якіх маладзёны дзяліліся сведчаннем сваёй веры, асабліва з тымі вернікамі, якія прымалі іх на начлег. У пілігрымцы з Гудагая прынялі ўдзел прадстаўнікі розных пакаленняў. Старэйшаму паломніку споўнілася 72 гады, самаму малодшаму – толькі 2. Траса пілігрымкі адрознівалася нетыповымі шляхамі – дарога ішла праз лес, лугі, а частку яе нават трэба было пераадолець у чаўнах па рацэ.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. бп Аляксандр Кашкевіч узначаліў гарадскую працэсію Божага Цела ў Навагрудку, кс. бп Юзаф Станеўскі – у фарнай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе. • Елізавета Богуш з Гродна прыняла ўдзел у XI Міжнародным моладзевым форуме ў Чампіна (Італія), прысвечаным падвядзенню вынікаў Сінода Біскупаў 2018 года на тэму моладзі. • У 25-ую гадавіну святарскіх пасвячэнняў пробашч парафіі ў Солах і смаргонскі дэкан кс. Леанард Станкоўскі атрымаў тытул ганаровага каноніка Гродзенскага катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра. • Адкрыццё гадзінніка на касцёльнай вежы адбылося падчас адпустовай урачыстасці ў Іўі. • Салезіянін Юрый Пашкавец прыняў вечныя манаскія абяцанні ў Смаргоні. • Вернікі з Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск) памаліліся за светлай памяці кс. Станіслава Петраша ў 25-ую гадавіну яго смерці.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Казімір Шыпіла, *вік. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Юстын Скакоўскі, *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. д-р Юзаф Казлоўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. кан. Марэк Бурак, *проб. Мсцібава;*
**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцяхоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны–Гродна;*
**18 ліпеня 1946 г.** – кс. кан. д-р Альбін Ярашэвіч, *проб. Гродна;*
**23 ліпеня 1955 г.** – кс. Юзаф Кавальчук, *проб. Індура;*
**24 ліпеня 1963 г.** – кс. Францішак Пятровіч, *проб. Нястанішкі;*
**26 ліпеня 1993 г.** – кс. Станіслаў Шока SDB, *душп. Ліда;*
**26 ліпеня 2009 г.** – кс. прэлат Мар'ян Маргуж, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**27 ліпеня 1932 г.** – кс. Антоній Аўдыцкі, *проб. Заневічы.*

АНОНСЫ

### УРАЧЫСТАСЦІ Ў НАВУМАВІЧАХ

**Св. Імша на месцы мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і Ліпска, расстраляных гітлераўцамі ў 1943 годзе, будзе адпраўлена 20 ліпеня ў 19.00.**

Да месца спачыну ахвяр II Сусветнай вайны з Гродна вырушыць пешае паломніцтва пад дэвізам "Пакліканыя да веры і сведчання аб Хрысце". Збор пілігрымаў у 12.00 у касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі), дзе адбудзецца супольная малітва, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і блаславенне.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 286-31-78 – кс. канонік Антоній Грэмза.*

### ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ГРОДНА – НАВАГРУДАК

**Паломніцтва да месца расстрэлу бл. с. Марыі Стэлы і 10-ці яе паплечніц, мучаніц з Навагрудка, адбудзецца 25–31 ліпеня пад дэвізам "Бог шукае чалавека ў табе" (Мц 5, 1–9).**

**Маршрут:**
Гродна – Азёры – Астрына – Шчучын – Жалудок – Беліца – Бярозаўка – Навагрудак.

Св. Імша на распачацце пілігрымкі пройдзе ў касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) 25 ліпеня ў 9.00. Эўхарыстыя на месцы расстрэлу блаславёных сясцёр у Батароўскім лесе пад Навагрудкам будзе адпраўлена 31 ліпеня ў 18.00. Духоўны кіраўнік пілігрымкі – кс. Генадзь Кухарэвіч CSMA.

*Запіс і падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 882-60-88 – с. Філатэя CSFN.*

*Арганізацыйная сустрэча для пілігрымаў адбудзецца 23 ліпеня ў 20.00 у гродзенскім пабрыгіцкім касцёле.*

### ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ГРОДНА – РОСЬ

**Паломніцтва ў санктуарый Пана Езуса Журботнага адбудзецца 2–4 жніўня пад дэвізам "Сям'я: дар і абавязак, надзея чалавецтва".**

Вернікі па традыцыі вырушаць з касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). Св. Імша на распачацце будзе адпраўлена ў 7.00.

*Заяўкі на ўдзел у пілігрымцы прымаюцца штодзённа ў касцёле Гродна-Паўднёвы або па тэлефоне: (8 029) 784-05-72 – кс. Юрый Марціновіч.*

*Арганізацыйная сустрэча адбудзецца 31 ліпеня ў 20.00 у касцёле, адкуль стартуе паломніцтва.*

### ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА БЕЛАСТОК – ГРОДНА – ВІЛЬНЮС

**XXVII Экуменічная пілігрымка вырушыць у санктуарый Маці Божай Вастрабрамскай 16 жніўня пад дэвізам "У моцы Духа".**

У Гродна вернікі прыйдуць 18 жніўня. Тут да іх далучацца мясцовыя жыхары.

Запісацца ў пілігрымку можна непасрэдна ў дзень яе адпраўлення з Гродна, 19 жніўня, перад або пасля св. Імшы а 7-ай гадзіне раніцы ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа (пабернардынскі). Тым, у каго няма візы, неабходна папярэдне звярнуцца да каардынатара паломніцтва з беларускага боку кс. Паўла Безляповіча ў тэрміне 20 ліпеня – 1 жніўня па тэлефоне: (8 029) 266-77-03.

*Агулам паломнікі пераадолеюць шлях працягласцю каля 300 км, наведваючы па дарозе каталіцкія і праваслаўныя святыні. У канчатковы пункт прыбудуць 24 жніўня.*

### ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКУ Ў МЕДЖУГОР'Е

**Паломніцтва да месца асаблівага ўшанавання Маці Божай адбудзецца з 19 па 25 жніўня.**

Па дарозе пілігрымы заедуць у Будапешт – сталіцу Венгрыі, горад моцнай каталіцкай традыцыі з прыгожымі старадаўнімі святынямі. Акрамя Меджугор'я ўдзельнікі пілігрымкі наведаюць сярэднявечныя гарады Мостар і Дуброўнік (Боснія і Герцагавіна), а таксама антычны Спліт (Харватыя).

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***13–14 ліпеня***
*Урачыстасці ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі.*

***16 ліпеня***
*Успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль.*

***20 ліпеня***
*Урачыстасці ў Навумавічах на ўспамін мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і ваколіц.*

***22 ліпеня***
*Свята св. Марыі Магдалены.*

***23 ліпеня***
*Свята св. Брыгіты Шведскай, апякункі Еўропы.*

***25 ліпеня***
*Свята св. апостала Якуба.*

***26 ліпеня***
*Успамін свсв. Яўхіма і Ганны, бацькоў Маці Божай. Дзень удзячнасці пажылым людзям, дзядулям і бабулям.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***
*Аб аддаленні спакусы да граху ад дзяцей і моладзі, а таксама аб узмацненні бацькоўскага клопату ў рэлігійным выхаванні маладога пакалення. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Божы сын



*У адной удавы быў маленькі сын, якога яна вельмі любіла. Хлопчыка звалі Андрэй. Жанчына шмат працы ўкладала ў яго выхаванне, таму што ў жыцці чалавека гэта самае важнае і неабходнае.*

*З ранняга дзяцінства хлопец ведаў, што трэба дапамагаць не толькі маме, але і іншым людзям: хворай бабульцы, адзінокаму пажылому мужчыну, малодшым дзецям, суседзям, таварышам. Каму вады з калодзежа прынясе, каму ў магазін ці ў аптэку збегае, цацкі парамантуе... Усе любілі Андрэя як шчырага і добрага чалавека.*

*Але часам, каб ніхто не бачыў, хлопчык плакаў, таму што яго тата памёр маладым. Калі жанчына заўважала яго слёзы, суцяшала сына як магла. А аднойчы яна сказала:*

*– Сынок, у цябе няма таты, але ёсць я. А ў некаторых дзяцей няма ніводнага з бацькоў, і яны жывуць у дзіцячых прытулках. Таму не грашы перад Богам і перастань плакаць. Акрамя роднага таты ў кожнага чалавека ёсць яшчэ Айцец Нябесны. Ён усё бачыць, усё чуе, усё ведае. Гэта наш Бог. Ён даў нам зямлю, насяліў яе птушкамі і жывёламі, а пасля стварыў чалавека і растлумачыў, як той павінен жыць: берагчы прыроду, любіць людзей і жывёл, нікога не крыўдзіць. І не праліваць лішніх слёз, а дапамагаць таму, каму цяжэй.*

*Хлопчык уважліва слухаў маму, а пасля запярэчыў:*

*– Але ж у Бога толькі адзін Сын – Езус Хрыстус, які прыняў крыжовую смерць і выратаваў нас ад вечнай смерці!*

*– Правільна, – згадзілася мама. – Езус – Сын Бога, але і кожны з нас – таксама Яго дзіця.*

*– Значыцца, і я Божы сын? – здзіўлена спытаўся Андрэй.*

*– Канешне, – адказала мама. – Таму памятай, што трэба жыць прыстойна, заўсёды быць добрым і справядлівым, каб не гнявіць і не крыўдзіць нашага Айца.*

*Паслухаў Андрэй маму, павесялеў і ўжо больш не плакаў. А што б ні рабіў, паўтараў сам сабе: "Я Божы сын".*

***

*Час ішоў, хлопец падрастаў. Ужо калі быў падлеткам, стаў сам зарабляць грошы. Пасля школы працаваў у аўтамайстэрні, многаму там навучыўся. Разам з мамай вырошчваў ягады і розную гароднніну. Быў добразычлівым. Ратаваў ад галоднай смерці бяздомных катоў і сабак: прыносіў іх дадому, падлечваў, знаходзіў добрых гаспадароў.*

*Аднойчы некалькі аднакласнікаў насмешліва спыталіся ў яго:*

*– Навошта гэтым займаешся? Якая табе карысць?*

*– Карысці я не шукаю, а іх, пакінутых людзьмі, шкадую, – адказаў Андрэй. – І святы Францішак карміў птушак ды жывёл, нават ваўка старога выратаваў ад смерці.*

*– Але ж ты не святы Францішак, – запярэчылі аднакласнікі.*

*– Не, – пагадзіўся хлопец, – але я іду па яго слядах, бо ўсе мы з'яўляемся дзецьмі аднаго Бога.*

*Насмешнікі замаўчалі і задумаліся над тым, што ён сказаў.*

***

*Пэўнага разу адзін мужчына папрасіў Андрэя дапамагчы прадаць кусты маліны, якія выкапаў у лесе. Хлопец згадзіўся.*

*Сталі да іх на рынку падыходзіць людзі ды пытацца, ці добры гатунак маліны.*

*– Так, добры. Ягады вялікія, – адказваў мужчына.*

*А Андрэй вазьмі ды скажы:*

*– Гатунак лясны. Лясная маліна гэта!*

*Людзі пачалі адварочвацца ды адыходзіць.*

*– Што ж ты нарабіў? – закрычаў на хлопца мужчына. – Ты ж мне ўсю справу сапсаваў!*

*– Я хлусіць не буду. Справа так пойдзе, як Бог дасць, – рашуча адказаў Андрэй і гучна закрычаў: – Каму патрэбна маліна лясная, лекавая ягада?*

*Людзі навокал сталі прыслухацца, цікавіцца – і хутка ў мужчыны не засталося ніводнага куста.*

*– Твая праўда, – урэшце згадзіўся ён. – Відаць, сам Бог нам дапамог.*

*– Бог заўсёды дапамагае тым, хто Яго любіць і шануе. А вось хлусіць ні перад Богам, ні перад людзьмі не трэба, – запэўніў Андрэй.*

***

*Падчас службы ў арміі хлопец трапіў у марскі флот. Аднойчы была моцная бура. Невялікі карабель, на якім знаходзіўся Андрэй разам з саслужыўцамі, пачаў танучь. Яго шпурляла на хвалях, як шчэпку. Усе вельмі перапалохаліся і разгубіліся. Радыст перадаваў сігнал "SOS" і прасіў дапамогі.*

*– Давайце памолімся Богу і Маці Божай, каб уратавалі наша жыццё, – сказаў тады Андрэй.*

*І ўсе – нават тыя, хто раней не верыў у Бога або насміхаўся з хлопца, – сталі паўтараць за ім малітвы. Не паспелі яны скончыць, як побач паказаўся вялікі карабель. Экіпаж быў выратаваны, а судна на буксіры дастаўлена ў порт.*

*Праз некаторы час Андрэй вырашыў пайсці ў духоўную семінарыю, каб несці Божае слова людзям, каб на свеце было менш зла, квітнелі дабрыня, мір і любоў. Урэшце ён знайшоў сябе – Божы сын!*

*Галіна Зданевіч, г. Ваўкавыск*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанай Сястры Мар'яне Стасевіч**

з нагоды надыходзячых Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы не слабеюць, а радасць напаўняе кожны дзень. Няхай Вас ахінаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі, а Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, спакою, Божай ласкі і апекі святога Заступніка. Бог даў Вам мудрасць, цярплівасць, любоў і сваю апеку. Дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, павучальныя казанні і за тое, што Вы з намі і для нас.

*Вернікі з парафіі св. Юды Тадэвуша ў Вішневе*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Гавэцкаму**

складаем словы падзякі за гадзіннік, за маленькі Біг-Бен, які быў асвечаны ва ўрачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі, і за ўсё добрае, што Вы чыніце для парафіі і парафіян. Наша Іўе штодзень прыгажэе, Слава ўвысь ляціць пра нас і мацнее. Прыгожа, цудоўна стала ў нас.

Дзякуем шчыра,
Пробашч Ян, для Вас!
Гісторыя Іўя пішацца
Вашай рукой.
Так прыгожа,
пяшчотна, з душой.
І ціхі вечар,
які стаіць над ракой,
Хваліць Вас
у песні сваёй.
Вашае сэрца,
як прамень цяпла,
Як кроплі вадзіцы,
што смагу зняла.
Вы добры айцец, дарадчык і пастыр наш.
Хай хвала ляціць
у вышыню пра Вас.
А гэты гадзіннік,
што святар асвяціў,
Каб усе сэрцы нашы
паяднаў і спляціў.
Каб вера наша
мацнела, расла,
А слава пра Іўеўскі
край па ўсім свеце
слыла.

*Парафіяне з Іўя*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас ласкамі і супакоем, далей дапамагае ва ўсіх справах і выкананні святарскай паслугі. Святы Дух натхняе, каб душпастырства прыносіла як мага больш плён, а Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляе кожную хвіліну. Жадаем, каб здароўе ніколі не пакідала, а побач былі зычлівыя людзі. Шчыра дзякуем за клопат, ласку і дабрыню, за тое, што вучыце любіць Бога і бліжняга, а таксама за адданую працу і малітву.

*З павагай і малітвай апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вінцэнту Лісоўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе спрыяе на працягу доўгіх гадоў, а радасць, любоў і шчасце будуць найлепшымі сябрамі.

*Вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Лідзе*

Прагнем выказаць словы ўдзячнасці ўсім Святарам і Манаскім Сёстрам, якія арганізавалі і спадарожнічалі нам падчас пешай пілігрымкі з Ліды ў санктуарый Маці Божай у Будславе. Дзякуем за Божае слова, якое Вы скіроўвалі да нас, за справаванне літургіі, а ў першую чаргу – за Ваша аўтэнтычнае сведчанне, якім дзяліліся з намі! Шчырае "аддзяч, Божа!" за Вашу адданасць Пану Богу, Касцёлу і людзям, якія кожны дзень знаходзяцца побач. Няхай Маці Божая выпрошвае для Вас у свайго Сына патрэбныя ласкі, каб маглі надалей несці радасць Евангелля ў свет.

*З удзячнасцю і памяццю ў малітве ўдзельнікі пешай пілігрымкі Ліда – Будслаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3097; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная